© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 18 (1825) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 5 МАЯ 1991 г. ЦАНА 800 зл.

X МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ — ГАЙНАЎКА '91.

## Размова перад фестывалем

**Гутарка з МІКАЛАЕМ БУШКО, дырэктарам Гайнаўскага дома культуры, арганізатарам фестывалю.**

— *Хто арганізуе фестываль „Дні царкоўнай музыкі“?*

**Мікалай Бушко:** Арганізацыйнага камітэта як такога няма. Мабыць, яно і нядобра, што так атрымалася, але мы прыйшлі да вываду, што нявярта зараз ісці на рызыку ды ствараць такі камітэт як асобную структуру, калі і без яе ўдалося паспяхова правесці дзевяць выпускаў фестывалю. Функцыю арганізацыйнага камітэта выконвае калектыў працаўнікоў Гайнаўскага дома культуры — ён жа галоўны арганізатар імпрэзы, а дапамагае гэтаму калектыву ў арганізацыйнай працы шырокае кола грамадскіх дзеячоў, напрыклад, а. Міхась Негярэвіч, Ян Сухадола, Васіль Іванюк ці Міхась Байко.

— *У гэтым годзе фестываль у маі?*

**М. Бушко:** Так, у маі. Заўсёды ў маі ён адбываўся — гэта ўжо традыцыя. Першы выпуск фестывалю „Дні царкоўнай музыкі“ мы задумалі былі правесці ў студзені 1982 года, але ваеннае становішча ў краіне перакрэсліла нашы намеры. Імпрэза адцягнулася да мая. Цяпер адчуваю, што шчаслівая яно так атрымалася: добра, што якраз у гэтым месяцы адбываецца фестываль — цёпла, зялёна, вясёла, па-веснавому... У гэтым годзе фестываль адбудзецца ў днях 16—19 мая.

— *Якія хоры вы сабе запэўнілі сёлета?*



**М. Бушко:** Па-мойму, лепш не карыстацца тут такім сцвярджэннем, як „запэўніць сабе“. „Дні царкоўнай музыкі“ — гэта вялікі фестываль, у якім прымае ўдзел вялікая колькасць хораў, бо звыш дваццаці. Кожная гэтага тыпу імпрэза кіруецца сабе характэрнымі правамі, на якія арганізатары часта не ў змозе ўздзейнічаць. Лепш папросту сказаць, што робім старанні, каб такія, ці іншыя хоры прынялі ўдзел у нашым фестывалі ўдзел. Што адносіцца да хораў, дык арганізуем наш фестываль у дзвюх катэгорыях, гэта значыць у катэгорыі парафіяльных хораў, для якіх царкоўная музыка не толькі носьбіт артыстычных каштоўнасцяў, але перад усім малітва, ды ў катэгорыі свецкіх хораў, як краёвых, так і замежных. З парафіяльных хораў заявілі ўжо свой удзел у фестывалі наступныя: два з Гайнаўкі — маладзёжны і дарослых, тры альбо чатыры з Беластока, адзін з Бельска-Падляшскага, адзін з Вроцлава, мабыць, прыедзе з Любліна, хор Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі ў Варшаве, запрасілі таксама найлепшы ў леташнім фестывалі вясковы хор з Нараўкі. Спадзяемся, што гэтыя краёвыя прыедуць. З замежных хораў — дамаўляемся наконт прыезду хору з Троіцка-Сергіевай лаўры ў Загорску, хору манастыра ў Пачаеве ды хору манастыра ў Жыровічах. Далей, з краёвых свецкіх хораў, якія дзейнічаюць у акадэмічных, ці падобных ім асяроддзях, праўдападобна, пабачым хор Музычнай акадэміі ў Быдгашчы, былы камерны хор Гданьскага універсітэта, хор „Кантылена“,

(Працяг на стар. 6)

## Гданьская хроніка

### АД КАЛЯД ДА ВЯЛІКАДНЯ

Дні ў календары бягуць няўмольна. Здаецца, нядаўна Міхась Куптэль упрошваў Аню Іванюк напісаць аб нашых справах. Гэтая яго думка пісаць, пісаць і яшчэ раз пісаць у „Ніву“ бярэцца з таго, што сёння ўсё яшчэ немагчыма ажыццявіць яго мару выдаваць сваю гданьскую беларускую газету.

На гэты раз мне давялося напісаць аб нашых справах, паказаць, што мы не спім, а ўсё жывём сваім беларускім жыццём. Часам мне здаецца, што гэта ўжо выходзіць па-за межы нармальнасці, а становіцца жыццёвай страсцю.

Усё, што адбылося ў перыяд ад Каляд (25—26 снежня 1990 г. — так яны святкуюцца ў гданьскім беларускім асяроддзі) мела прызнакі бурлівай культурна-асветніцкай працы.

### СЁЛЕТНІ КАРНАВАЛ

Вядома, калі карнавал, дык абавязкова балі. Арганізавала іх моладзь на Новы год і на запусты. Нават удалося нам выслаць наша прадстаўніцтва (Іра Гаданчук і Ірыней Лаўрашук) на варшаўскі навагодні беларускі баль, які лічым цэнтральным.

19 студзеня адбылася ёлка для дзяцей. Святочны настрой узбагацілі нашы дзеці, якія спявалі калядкі, прымалі ўдзел у конкурсах і гульнях, а таксама Дзед Мароз. Гэтым разам аказаўся ён зацятым беларусам — з дзеткамі размаўляў выключна па-беларуску і тлумачыў ім, што такое годнасць і гонар беларуса. Мабыць, таму Кася Іванюк, вучаніца трэцяга класа, якой не даводзіцца бываць на ўроках беларускай мовы, прыгожа дэкламавала верш пра зіму. Усе дзеці атрымалі падарункі ад Дзеда Мароза і доўга стаялі пры вокнах, каб пабачыць, як адлятае ён на ракеце. Дзед Мароз абяцаў прыляцець це.

Пры нагодзе ёлкі ўдалося сабраць грошы на дапамогу беларусам Літвы

(Працяг на стар. 7)

## КАВЯРНЯ Ў БГКТ

15 красавіка ў клубе ГП БГКТ запачаткавала сваю дзейнасць кавярня. За прылаўкам буфета (досыць саліднага і акуратнага) стаяла працаўніца БГКТ Галіна Раманюк, на паліцах стаялі баначкі з усялякімі заходнімі напоямі, а на прылаўку — кава і гарбата (у шклянычках). Каву і гарбату падавалі задарма (але гэтак толькі на пачатак, далей будзе як у цывілізаваным капіталізме). На адкрыццё кавярні прыйшло крыху студэнтаў ды старэйшыя дзеячы БГКТ з Беластока, у самы раз, каб усім хапіла месцаў за столікамі. „Ніва“ прысутнічала прыстойным лікам.

Афіцыяльную нагоду запачаткаваў сакратар ГП БГКТ Віктар Стахвюк, які шчодрымі слоўнымі мазкамі накрэсліў будучыню кавярні як месца спатканняў беластоцкай беларускай эліты з тоўстымі кашалькамі і будучыню клуба ГП як месца прэзентацыі беларускай фільмовай творчасці, рэалізаванай тэхнікай відэазапісу. У БГКТ ёсць ладных памераў тэлевізар з відэа-прайгрывальнікам і відэакамера, абслугоўваць якую вучыцца свежаспечаны інжынер-магістр Яўген Сноп (як большасць свежаспечаных інжынераў-магістраў, беспрацоўны). Усе хады прабіты, Я. Сноп набудзе адпаведную кваліфікацыю камерыста на адпаведным курсе ў Мінску. Яму наканавана стацца першым беларускім фільмоўцам у Беластоку. Ягоныя фільмы можна будзе паглядзець у клуба-кавярні, спачатку ў тэлевізары, потым на значна большым відэа-экране (калі знойдуцца грошы на закуп гэтае штукі). Будучыня БГКТ красуецца жвавымі колерамі вясёлкі, а кожнае слова В. Стахвюка, раней ці пазней, стаецца чынам.

Кавярня будзе адчыненая ад серады да нядзелі ў гадзінах 17—21.

Дарэчы, кава была неблагая.

**Ян Максімюк**



*За прылаўкам — Галіна Раманюк.*

*Фота Аляксандра Максімюка.*

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

— 37 —

Як вядома, у нашай краіне праводзяцца вялікія перамены. Зводзячы справу да вялікага скарачэння, можам сказаць, што край пераходзіць ад сацыялізму да капіталізму. Пераход гэты вельмі зразумелы і прыемлівы для моладзі, якая горача верыць, што перамены давядуць да такога стану гаспадаркі, які выступае ў перадавых краінах заходняга свету. Зусім па-другому выглядае гэта праблема сярод старэйшага пакалення, да якога залічваюся і я. Маё пакаленне вызвалілася з бяды дзякуючы папярэдняй сістэме. Дзякуючы ёй здабывала асвету. Дзякуючы ёй старыя людзі з вёсак атрымалі першы раз у нашай гісторыі пенсіі. Дзякуючы ёй уведзена было бясплатнае лячэнне, былі збудаваны бітыя або асфальтныя дарогі, была праведзена электрыфікацыя, у вёску прыйшлі сельскагаспадарчыя машыны, у хатах паявіліся прылады, аб якіх ніхто і ніколі ў беларускіх вёсках не чуў: тэлевізары, халадзільнікі, пыласосы. Сяляне селі на матацыклы, а то і ў легкавыя прыватныя машыны. Ці ж усё гэта не магло не выклікаць у сэрцах беларусаў свайго роду здавальнення і здзіўлення? Зразумела, што ніхто ў вёсцы і не думаў аб тым, што, быць можа, калі б у нас пасля вайны запанавала сістэма заходняя, дык прагрэс быў бы яшчэ большы.

Так ці інакш, у беларускіх вёсках, калі толькі паяўляецца ў тэлевізары палітык, які гаворыць, што сацыялістычная сістэма зрабіла з Польшчы пустыню, спалены дом або могільнік, дык зацікаюць кулакі і плявузгаюць страшэннымі словамі. А чаму? А таму, што кожны селянін умее лічыць і параўноўваць. І калі палічыць і параўнае цэны на тыя прадукты, якія ён прадукуе, з цэнамі на прамысловыя тавары, на штучныя ўгнаенні з размерамі падаткаў, дык выразна бачыць, што яго жыццё значна пагоршылася. Практычна нельга нікому нічога выясніць. Зрэшты, той, хто хацеў бы выясніць, па сутнасці не мае ніякіх аргументаў, якія б траплялі ў сялянскія сэрцы.

Трэба сказаць, тое, што такія важныя для мяне факты, як свабода прэсы, свабода ў стварэнні партый і большыя, чым дагэтуль, магчымасці ў галіне выказванняў у нацыянальных справах для маіх вясковых беларускіх размоўцаў не маюць ніякай вартасці. Сяляне ўпарта гавораць: калі не ўмее новая ўлада зрабіць нічога добрага новага, дык няхай дасць тое, што было старое. А тым часам вярнуць старога ўжо нельга. І зусім магчыма, што будзе яшчэ болей таго, што так не падабаецца сялянам, хто ведае, ці не вернецца платная медыцынская апека і платнае сярэдняе ды вышэйшае школьніцтва. Калі б яно так сталася, тады апазіцыйнасць сялянства да новых парадкаў будзе татальнай. Разумею сялян і гляджу са страхам і на захудалую гаспадарку сваёй сястры. Не была яна ў росквіце ані пры Гамулцы, ані пры Герэку, але не была ў такім цяжкім становішчы, як сёння. Гляджу на сваю сястру-мучаніцу і не знаходжу слоў пацехі. А ілгаць селяніну не трэба, бо да канца жыцця будзе нас трактаваць як падманшчыка. Ну, і што рабіць? Не ведаю. Я асабіста вельмі не хацеў бы, каб беларусы з усходняй Беласточчыны сталіся татальнымі апазіцыянерамі ў адносінах да новай дзяржавы. Апазіцыйнасць вядзе да змагання. А вядома, што ў змаганні праігрывае слабейшы. Беларуская меншасць з'яўляецца сілай слабейшай і не хацелася б, каб сталася яна пераможанай, не хацелася б, каб усюды на беларуса глядзелі як на ворага, як на чалавека, не годнага даверу.

Вынікі парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў на ўсходняй Беласточчыне далі адназначны адказ на пытанне, якія погляды і настроі дамінуюць сярод беларусаў.

Здаецца мне, што ў такой сітуацыі слова застаецца за дзяржавай. Польшча павінна большую, чым дагэтуль, увагу звярнуць на ўсходнюю Беласточчыну. Стварыць там лепшыя, чым дагэтуль, умовы для развіцця сельскай гаспадаркі. У большай, чым да гэтай пары, ступені браць пад увагу нацыянальныя і культурныя аспірацыі беларусаў, запэўніць бяспеку праваслаўным святыням і могільнікам, заняцца беларускай асветай. Усё гэта, не сумняваюся, будзе спрыяць перамене настрояў у беларускіх вёсках. Запануюць у іх настроі і пачуцці грамадзянскасці. Адным словам, паявіцца тое, што будзе папярэджваць асіміляцыю, але і спрыяць інтэграцыі. Думаю, што на чымсьці такім залежыць як беларусам, так і палякам. Улады павінны зразумець, што толькі тады, калі людзі пачнуць духоўна і матэрыяльна жыць лепш, чым жылі, перастануць любіць мінулае і пачнуць любіць сучаснае.

**Алесь Барскі**

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Лех Валэнса** нанёс афіцыйны візіт у Вялікабрытанію. У выніку візіта быў падпісаны трактат аб супрацоўніцтве абедзвюх краін.

**Лідэр Дэмакратычнай уніі Тадэуш Мазавецкі** пабываў на Беласточчыне і сустракаўся з жыхарамі Беластока, Бельска-Падляшскага і Саколкі. У Беластоку правеў ён размовы з біскупам **Эдвардам Кіселем** і архіепіскапам **Савай**. „Хачу сарыентавацца, — сказаў на прэс-канферэнцыі, — як выглядае сужыццё католікаў з праваслаўнымі. Я не вынес уражання аб нежаданні супрацоўніцтва, але ступень экуменічнага набліжэння ацэньваю як стрыманы“.

**23 красавіка аднаўлены ўсеагульны страйк у Мінску.** У адозве да народа Беларусі Мінскі гарадскі страйкавы камітэт піша: „Наш працалюбівы таленавіты народ 70 гадоў ішоў у авангардзе будаўнікоў светлай будучыні і не заўважыў, як аказаўся на задворках цывілізацыі, страціў сваю гісторыю, культуру, мову і застаўся адзін на адзін з чарнобыльскім горам. Нам не дапамаглі ні наша стапрацэнтовая дысцыпліна паставак прадукцыі ў саюзны фонд, ні нават надзейна арганізаваная кампартыяй падтрымка гарбачоўскага рэферэндуму. Галасаваўшы ў большасці за так званы аднаўлены Саюз мы атрымалі аднаўленыя цэны“. На мітынгу на плошчы Леніна сабралася 30 тысяч працоўных. Патрабуюць яны тэрміновага склікання сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі з вынясеннем на парадак дня аднаго важнейшага пытання: дэпартызацыі ўсіх дзяржаўных структур, прадпрыемстваў, праваахоўных органаў, сістэмы адукацыі і навукі, нацыяналізацыі маёмасці КПСС-КПБ з адменай усіх прывілей партыйна-дзяржаўнага апарату. Страйкуючыя ўпэўнены, што пазбаўленне КПСС манаполіі на ўладу можа стварыць рэальныя ўмовы на вывад рэспублікі з палітычнага і эканамічнага крызісу.

**Біскуп Беларусі Тадэуш Кандрусевіч** назначаны папам апостальскім адміністратарам еўрапейскай часткі Расійскай Савецкай Федэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі і пераведзены ў сан архіепіскапа. На пасад мітрапаліта Мінска і Магілёва вынесены **кс. Казімеж Свёнтак** з Пінска, а на пасад біскупа Гародні — **кс. Аляксандр Кашкевіч** з Вільні.

**Спынена пастаўка „Нівы“ ў Беларусь.** Гродзенская таможня паясніла, што „Белсаюздруку“ трэба быць „участником внешнеэкономических связей“ і мець „регистрационную карточку с номенклатурой товаров и услуг по экспорту и импорту с польской стороной, если стоимость товаров перевышает 200 рублей“. „Белсоюздрук“ заказваў у БГКТ 1000 экземпляраў „Нівы“ вартасцю ў 500 рублёў.

## ПАДЗЯКА

**Управа „Белавежы“ выказвае сардэчную падзяку ЮРКУ БАЕНУ з Бельска-Падляшскага за 50 тысяч злотых, пералічаных на рахунак нашага літаб'яднання.**

## З друку

### ВОЛЬГА КОРБУТ — АХВЯРА ЧАРНОБЫЛЯ?

Вядомая савецкая спартсменка Вольга Корбут наведала апошнім часам разам з сям'ёй цэнтр даследаванняў рака імя Фрэда Хачынсона ў горадзе Сітл (ЗША). Там яна падвяргалася абследаванням, якія маюць высветліць, ці яна з'яўляецца ахвярай аварыі Чарнобыльскай АЭС у 1986 годзе.

Вольга Корбут, якая на алімпійскіх іграх у Мюнхене ў 1972 годзе заваявала тры залатыя медалі, у час чарнобыльскай катастрофы жыла ў Мінску (290 км ад месца аварыі).

Вядомая гімнастка зараз скардзіцца на працяглую стомленасць і мае клопаты са шчытападобнай залозай. Сказала яна журналістам, што неўзабаве стварыць фонд імя Вольгі Корбут з мэтай дапамагаць ахвярам радыяцыі на Беларусі і, магчыма, вернецца на Беларусь.

Вольга Корбут жыве разам з мужам і сынам у мясцовасці Гемантан у штаце Нью-Джэрсі і працуе выкладчыкам у мясцовай гімнастычнай школе.

*(„Kurier Szczeciński“ z 5—7.04.1991)*

### ЧЫТАЙЦЕ І РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ КНІЖКІ БЕЛАРУСКАГА ЛІТАРАТУРНАГА АБ'ЯДНАННЯ „БЕЛАВЕЖА“!

**Маем у продажы зборнікі паэзіі Надзеі Артымовіч „Сезон у белых пейзажах“ (цана 5 тысяч зл.), Уладзіміра Гайдука „Блакітны вырай“ (цана 3 тыс. зл.), Зосі Сачко „Над днём похіляна“ (5 тыс. зл.), Віктара Шведа „Родны схоў“ (5 тыс. зл.).**

**Купіць іх можна непасрэдна (або за залічэннем паштовым), пішучы на адрас: ГП БГКТ у Беластоку, „Нівы“ ці Białoruskiego Stowarzyszenia Literackiego „Białowieża“ ul. Kilińskiego 6, 15-089 Białystok, PBK I/O Białystok, 370-406-200107-132.**

### ПЕРАХАВАННЕ АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА

**Таварыства беларускай культуры пры Літоўскім фондзе культуры і віленскі клуб „Сябрына“ запрашаюць беларусаў з усіх куткоў свету на ўрачыстасць перахавання Івана Луцкевіча, якая адбудзецца ў суботу 18 мая 1991 г. а 11 гадзіне на могільніку Роса ў Вільні. Вечарам таго ж дня ў памяшканні клуба „Сябрына“ адбудзецца вечар, прысвечаны Яго памяці.**

*

Зацікаўленым паездкай у Вільню паведамляем, што ў турыстычных фірмах Беластока за 50—55 тысяч злотых можна купіць „ваўчэр“, які ўпаважняе да перасячэння граніцы і забраніравання двух начлегаў.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 378

# Ян Чыквін

## Смуга вячэрняя

*М. Т. З.*

Вяртаецца пад вечар лірычнае зацьменне.
Мінула тысячу гадоў, як ты схавалася ў мінуласць
І я не мог наслухацца твайго звонкага заспеву.
Імклівых хваль сумілавання так нам міла!

Запаланіла некалі мяне твая ўсячалавечнасць,
Жаноча-боская цярплівасць, дабрыня, ласкавасць,
Ружовы алебастр тваёй душы і многае такое,
Чаго ніякім нельга выказаць разумным словам,
Бо тое ўсё перадаецца дотыкам, у жэсце, пацалунку.

Ты зараз зноў з'явілася ў маім уяўленні.
Я паўтараю ўсе імёны твайго цела.
Мабыць, не тыя мы ужо... Але прыемна ведаць,
Што ты пад сонцам ёсць, прыгожае стварэнне,
І харашынь твая — агонь святы ў лампадзе;
Ды сэрца адначасна гаркатою думкі джаляць,
Што дні мінаюць, чэзнуць-чэзнуць тыдні,
А мы — не разам і зусім, магчыма,
Датла згарым мы ад самоты у самоце
І ніколі не дагонім тых хвілін нам даных,
І ніколі свет не ўбачыць нашых сплеценых двух ценяў...
Нельга, нельга паўтарыць жыцця дзівосных летуценняў!

З высокіх дахаў неба свеціць сонца закаханых,
А ты ка мне ідзеш палкаю смугой вячэрняй.

* ✲ *

Даўно нежывы бацька полем ідзе.
Ён арэ.
Ён і плуг.
Ён і скіба раллі, і зерне,
І водсвет далёкага раю.

Вочы, якімі ён глядзіць на свет,
Тыя самыя вочы, што яго сузіраюць.

Аўсу бацька ўзяў у радно
Ды сее той бок, дзе вечнасць даўно.

## Айкумена

Жаночая ноч. Выбух жыцця. Светлыня.
Голас гарыць. Настальгія. Ціш гаваркая.
Маладымі далонямі свет можа сябе абняць,
Высокае неба сінню вачэй сябе сустракае.

Пераміг серабрын, сапфіры імкнуць у чэрнь,
Смарагды раслін выносяць вохравасць лета,
Пазалота палёў аблямаваных фіялетам
І штосьці нябачнае рэкамі дзён цячэ.

Нерэальна-рэальныя флёксы і флёры быцця,
Даспяванне гадзін, фалянанне жыцьва,
Палагоды навеў, сладкапення жывога налівы
Зныне давеку — і ўсе нешчаслівa шчаслівы.

Кроў, права зямлі, б'ецца сэрца самоты,
Сэнсы без сэнсу, ілюзій агністых пячаць;
Паўшых анёлаў кароткахвілінныя ўзлёты
Замкнёных у свеце нібыта ў чэраве маці.

# Надзея Артымовіч

* ✲ *

твой цень твой тон твая
адсутнасць
гэта боль як прысніўшыся дом

твой затуманены позірк
увайшоў у мой нявінны верш
малюся

* ✲ *

у белым бельскім нацюрморце
я праплыла хвіліну
рэчаіснасці
блакітную хвіліну

дарога да сябе

словы мае славамі
след думак дым
доўгі дым

жыву ў слядах думак
загледжаная ў заіржавелае неба
кругі

калекцыя кругоў жывых хвілін
блакітнае маўчанне
першае маўчанне

слухаю нямую птушку
ў бельскай цішыні
нямую птушку добрай цішыні
і яна ніколі не забывае мяне

птушка верыць Сонцу
птушка верыць маім словам
блакітны дым

рысунак з дзяцінства лагодны
свет

зялёная балада невыразны спеў
далікатнасць рысунка

бельскі белы нацюрморт

# Жэня Мартынюк

* ✲ *

Для нас дзень днём
Калі ззянне яго
асвятляла нашыя думкі

Ноч была ноччу
калі яе цемра
хавала нашыя таямніцы

Ты быў сабою
пакуль мае пачуцці
былі вогнішчам.

**ПРАБАЧ**

Прабач мне
што не ўмела кахаць
я ж самавук

. . .
і не знала
хлусні проста ў вочы
мне
яшчэ праўда
заранкаю марыцца.

# Андрэй Сцепанюк

* ✲ *

**за тых хто ходзіць
па крывых шляхах
недасяжнага акіяну**

**тых каго вецер змятае
кожнай часткай свайго
палымянага гневу**

**тых каму трэба глядзець
у чэрнь восеньскай ночы
каб убачыць**

**тых каму змяя слоў
абвівае і зашморгвае
таўставатую шыю**

**тых верных і няверных
каму кожная чыстая рука
ад бога міласцівага**

**тых зялёных і чырвоных
каму лініі значаць колы
а колы значаць лініі**

**тых каму боль валасоў
сніцца кожнай хвілінай
прыжмураных вачэй**

**за тых каго бачым
і не бачым**

**будзь гатовай
маліцца
маці Беларусь**

* ✲ *

**забываю што
я быў малы
хлопчык
і гэта магло
не змяніцца**

**забываю што
мы естэсьмы краснолюдкі
над гловамі мамы будкі**

**забываю што
у дзень майго
нараджэння
на шпіталь
у бельску падляшскім
мелася ўпасці
атамная бомба**

**забываю што
мой бацька мог памерці
трынаццаць гадоў раней**

**забываю што
мая маці
ніколі не думала
што я аб усім тым
забуду**

* ✲ *

*Надзі*

**кусок тваёй
веры
упаў мне
на калені
з ляскатам
апошняга
цягніка
з беластока
у бельск**

**залапаталі
колы
затрымаліся
твары
і вокны сталі
чорнымі**

**трэба будзе
маўчаць
падумалася
каб не зраніць
крылатых
павукоў
недаверу**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016




## ІДЭЯ БЕЛАРУСКАГА ЦЭНТРА

На апошнім пленуме Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ягоны старшыня Аляксандр Баршчэўскі выставіў дамаганне, каб Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне падало да публічнага ведама „лісты, кіраваныя ў дзяржаўныя органы, у якіх ацэньваецца БГКТ“ (цытата з „Нівы“ ад 7 красавіка). Такіх лістоў няма, але Баршчэўскі, відаць, мае на ўвазе складзеную мною пад канец мінулага лета прапанову ўтварыць Цэнтр беларускай культуры Польскай Рэчыпаспалітай, які, акрамя сваёй фундаментальнай функцыі, служыў бы запатрабаваннем усіх беларускіх арганізацыяў і згуртаванняў. З ахвотай карыстаюся нагодаю надрукаваць тэкст гэтага дакумента, што паслужыць папулярызацыі самое ідэі Цэнтра перш за ўсё, як і дыскусіям над яго канцэпцыяй. Тым больш сэнс такой публікацыі, што ўлады аднесліся з прыхільнасцю да задумы арганізаваць беларускі дзяржаўны асяродак у дапамогу нашаму тут нацыянальнаму руху.

**Сакрат Яновіч**

Białystok, 31-08-1990 г.

Do
Pani Minister Kultury
i Sztuki
Rzeczypospolitej Polskiej.

Białoruskie Zjednoczenie Demokratyczne w Polsce niniejszym postuluje powołanie do życia Centrum Kultury Białoruskiej Rzeczypospolitej Polskiej. Według naszego przekonania, istotą tej nowej placówki byłaby nie tylko służebna rola wobec potrzeb stricte narodowościowych, lecz także szersza — promowanie kultury Narodu Białoruskiego Rzeczypospolitej Polskiej jako specyficznej części ethosu wszechbiałoruskiego, będącej mniejszościowym komponentem Państwa Polskiego i wpływającej w jakiejś mierze na fizjonomię psycho-kulturową Białorusinów w ogóle, w ZSRR i na emigracji. Żywotność białoruskojęzycznego fragmentu Polski dotychczas tłamszono, nie głównie z powodów wewnątrzpolitycznych, które nie mogły być znaczące chociażby ze względu na rzeczywistą skalę zjawiska białoruskiego w naszym kraju, lecz właśnie z pozycji racji stanu poprzednich rządów, zależnych wprost od Kremla (zawsze wyczulonego na irredentę narodów nierosyjskich).

Ponieważ podstawą kultury jest książka, przyszłe Centrum prowadziłoby dom wydawniczy, w zakres którego wchodziłoby również

**(Працяг на стар. 6)**

СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Кузня ў вёсцы Чорная-Царкоўная. Мал. У. Петрука.*




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (II АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

**— 39 —**

У часе выбараў у Сейм Рэчыпаспалітай, уваходзячы ў выбарчую арганізацыю т.зв. „Дзяржаўнае аб'яднанне на крэсах“ (спісак № 23) змагалася са спіскам № 16, які прадстаўляў нацыянальныя меншасці. Такое дзеянне не скончылася эфектам з прычыны памылковай тактыкі польскіх арганізацый ва ўсходніх ваяводствах, якія, недаацэньваючы меншасны блок, не былі схільныя да стварэння супольнага польскага блока. Са спіска № 22 не ўвайшоў у Сейм ніводзін пасол.

Арганізацыя Б.Б.А выступала супраць Беларускага народнага камітэта ў Вільні, а такасама як адзіная з беларускіх арганізацый пратэставала ў сувязі з тым, што Беларускі народны камітэт лічыў сябе галоўнай беларускай арганізацыяй на тэрыторыі Рэчыпаспалітай Польскай. Было гэта пасля выбараў у варшаўскі Сейм. Прадзяржаўная дзейнасць Беларускіх беспартыйных актывістаў, якая развівалася асабліва на Гродзеншчыне, ліквідавала ўплывы як беларускага пасольскага клуба, які быў прымушаны закрыць свае „сакратарыяты“ ў Крынках, Пружанах, так і Віленскага народнага беларускага камітэта. Дзейнасць Б.Б.А. уплыла на памяншэнне антыдзяржаўнай беларускай агітацыі на Гродзеншчыне. Органам Б.Б.А. быў пачаткова „Беларускі шлях“, а пасля „Сялянская гутарка“, нерэгулярны часопіс з антыбальшавіцкім характарам, які прапагандаваў супрацоўніцтва беларусаў з Польшчай.

У сувязі з тым, што дзеячы Б.Б.А. не грашылі, як аказалася, высокімі маральнымі пачуццямі, польскі ўрад ліквідаваў датацыю, у выніку чаго арганізацыя павольна памерла.

Агляд прадстаўленых паланафільскіх арганізацый сведчыць аб тым, што нягледзячы на падтрымку з польскага боку, ніводная з іх не дала сур'ёзных вынікаў. „Зялёны дуб“ не меў адпаведных людзей; генерал Булак-Балаховіч, нягледзячы на вялікую папулярнасць сярод люду, зрабіў нямногае, бо аказаўся непадрыхтаваным да гэтай ролі камандзірам. Савінкаў з прычыны дрэннай падборкі памагатых, прынёс больш шкоды, чым карысці. Алексюк аказаўся звычайным ашуканцам; дзеячы Б.Б.А. не цешыліся добрай ацэнкай сярод беларусаў. Шэраг іншых дзеячоў, якія апынуліся ў характарызаваных арганізацыях, аказаліся кар'ерыстамі, якія імкнуліся да нелегальнай карысці, і дэмагогамі. Прычынай няўдач дзеянняў паланафільскіх арганізацый было перад усім тое, што польскія ўлады абапіраліся на няпэўны або неадказны элемент.

Адмоўна ўплывала таксама руская рэвалюцыя. Разбэшчаны індывідуалізм, хваравлівыя амбіцыі людзей, якія не дараслі зусім да акрэсленых пастоў і функцый, а часта гэтыя функцыі перарасталі іх індывідуальныя магчымасці — вось рысы такіх псеўдадзеячоў з-пад знаку рускай рэвалюцыі, з якімі прыйшлося нам дзейнічаць.

Перашкаджаў таксама досыць нізкі ўзровень інтэлігенцыі і досыць слаба развіты арганізацыйна-грамадскі інстынкт сярод беларускай грамадскасці.

Беспаспяховасць дзейнасці беларускіх паланафільскіх арганізацый, незалежна ад матэрыяльных затрат, выклікалі таксама значныя страты матэрыяльнага і прапагандысцкага характару.

*(Працяг будзе)*

# Грыбы па-беларуску



У пачатку г.г. у Мінску выйшла невялікая аб'ёмам і накладам (500 паасобнікаў) кніжачка Галіны Сяржанінай „Грыбы“ (аскаміцэты, базідыяміцэты). Кніжачка пазначана як выданне Тэрміналагічнай камісіі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны і прысвечана распрацоўцы беларускай навуковай мікалагічнай наменклатуры. Я настолькі слаба разбіраюся ў батаніцы, што не ў змозе вызначыць ролю гэтых грыбоў ні ў эвалюцыйным паступе раслiннага свету, ні ў недыетэтычным харчаванні чалавечай грамады. Суб'ектыўнае ўражанне такое, што каласальная большасць грыбоў з гэтых двух класаў — непрыгоднае для ежы паскудства, якое расце дзе папала і як папала, хоць сярод іх ёсць і ядомыя: апенька, баравік, масляк, падасінавік, сыраежка (клас базідыяміцэтаў), смаржок, труфля (клас аскаміцэтаў). Агульны лік гэтых міцэтаў на зямным шары перавальвае за 50 тысяч; у кніжцы Г. Сяржанінай дадзены беларускія назвы 168 відаў, выяўленых на тэрыторыі Беларусі. Дзеля акуратнасці, а не таму, каб намяшаць у галовах нашых чытачоў, дадам, што акрамя відавых найменняў у кніжачцы мы знойдзем таксама назвы прамежкавых таксонаў (паміж відам і класам), гэта значыць: родаў, сем'яў, парадкаў, групаў парадкаў і падкласаў.

Распрацаваная і запрапанаваная беларуская „грыбовая наменклатура“ абапіраецца на досвед развязвання аналагічных пытанняў у іншых мовах (асабліва ў польскай, чэшскай і славацкай). Асноўная ўвага адведзена родавым назвам, для якіх ужыты найбольш распаўсюджаныя і трапныя народныя назвы, зрэдку — калькі з лацінскіх найменняў з улікам асаблівасцяў беларускай мовы (непасрэдная суаднесенасць навуковай наменклатуры ў батаніцы і заалогіі з лацінскай наменклатурай зразумелая без дадатковых тлумачэнняў). У якасці відавых назваў скарыстаны такія прыкметы грыбоў, як іхні колер, форма, месца або час знаходжання і інш. Таму, як правіла, відавыя таксоны маюць бінарную форму: родавая + відавая назва (прыкладам: агнявец веснавы).

„Грыбы“ Г. Сяржанінай як першы выпуск беларускай навуковай тэрміналогіі ў серыі, запланаванай Тэрміналагічнай камісіяй Таварыства беларускай мовы, папярэджаны агульнай прадмовай старшыні ТБМ Ніла Гілевіча. Адзначыўшы дзесяцігадовы перыяд дзейнасці створанай у 1921 годзе Навукова-тэрміналагічнай камісіі, плённы выданнем 24 выпускаў „Беларускай навуковай тэрміналогіі“ па розных галінах навукі, Н. Гілевіч лапідарна растлумачвае сутнасць таго, што сёння мы



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## ПРАБЛЕМЫ УСХОДНЯЙ ЛІТВЫ

*Праблемы Усходняй Літвы ўжо некалькі гадоў цікавяць усіх, хто так ці інакш займаецца фармаваннем грамадска-палітычных адносін у Літоўскай Рэспубліцы. Прапаноўваліся шляхі рашэння праблемаў урадавай камісіяй. Няраз пытанні жыцця Віленскага Краю разглядаліся ў парламенце. На парадак дня сваёй дзейнасці вынесла іх і Дэмакратычная партыя працы Літвы. Нядаўна была прынята заява камісіі ДППЛ па Усходняй Літве. Ніжэй прыводзім вытрымку з гэтай заявы:*

„Дэмакратычная партыя працы Літвы выказвае гатоўнасць і заклікае да гэтага іншыя партыі і грамадскія рухі, не марудзячы, пачаць кансультацыі з прадстаўнікамі польскага, рускага, беларускага і іншых нацыянальных згуртаванняў у мэтах высвятлення найбольш мэтазгодных культурных, міласэрных акцый, аказання іншай дапамогі раёнам Усходняй Літвы. Неабходна правесці даследаванне мінулага, гістарычных і археалагічных помнікаў гэтага краю. Мы заклікаем гісторыкаў, мовазнаўцаў, сацыёлагаў сумесна з калегамі з Польшчы і Беларусі актывізаваць даследаванні прыгранічнага фальклору, звычаяў, культуры.

У ДППЛ утворана спецыяльная камісія па праблемах Усходняй Літвы. Сваёй дзейнасцю мы будзем садзейнічаць узаемаразуменню людзей літоўскай, польскай, рускай, беларускай і іншых нацыянальнасцяў. Асабліва мы будзем інфармаваць людзей іншых нацыянальнасцяў, у тым ліку і тых, хто не валодае літоўскай мовай, аб сацыяльным развіцці Літвы і яе палітычнага і культурнага жыцця. Мы звяртаемся да іншамоўнай грамадскасці па-польску, па-руску і па-беларуску. У Літве не павінна быць захалусця, перыферыі, правінцыі, да якіх даходзіла б няпоўная, часцей за ўсё скажоная, інфармацыя. Мы запрашаем усе палітычныя сілы, сродкі масавай інфармацыі ўстрымлівацца ад заяў і дзеянняў, якія маглі б узмацняць недавер і падазронасць паміж народамі“.

*(Радыё „Свабода“)*




## ЯК Я НЕ СТАЎ МІЛЬЯРДЭРАМ

У лютым і сакавіку г.г. у сваёй паштовай скрынцы штодзённа знаходзіў я 2—3 лісты, у якіх зусім невядомыя мне людзі прапанавалі прыняць удзел у так званай міжнароднай ігры амерыканскіх бізнесменаў (Multi Success Ultra System). Удзел гэты зводзіўся да высылкі мною паштовым пераводам 20 тысяч злотых на адрас першай асобы (удзельніка ігры) у спіску, які змяшчаўся на канцы бланка ігры. Далей трэба было мне зрабіць 100 ксеракопій таго ж бланка, дапісаць сваё прозвішча на канцы спіска, і разаслаць іх па Польшчы, паводле адрасаў, узятых з якой-небудзь тэлефоннай кніжкі.

Не ведаю, але гэтая ігра, хаця яе стваральнікі прыдумалі добры спосаб засцеражэння перад несумленнымі (на бланку трэба было змясціць квітанцыю пасылкі грошай), мне паказалася крыху рызыкоўнай. Напэўна шанц на выйгрыш нейкіх грошай (паводле стваральнікаў — 20 мільярдаў у найлепшым і 2 мільярды ў найгоршым выпадках) меў той, хто пачаў іграць на самым пачатку. Потым, як хваля бланкаў пачала заліваць уладальнікаў тэлефонаў, ігра мусіла „задушыцца“ (у красавіку я ўжо атрымоўваў адзін-два бланкі ў тыдзень).

Я хаця на збытак грошай не наракаю (зрэшты, каму зараз грошай хапае?), іграць не рашыўся. Думаю цяпер — зрабіў добра ці дрэнна? Цікавіць мяне, ці нехта з чытачоў „Нівы“ рызыкнуў і фактычна стаў мільярдэрам? Няхай напіша! Калі б баяўся, што абкрадуць, няхай напіша ананімку.

**Пётр Байко**

# Юбілей Аляксандры Бергман

**З нагоды 85 гадавіны з дня нараджэння Аляксандры Бергман (нар. 1 мая 1906 года, Гародня), выдатнай беларускай палітычнай дзяячкі даваенных гадоў (за што была арыштавана і выслана ў Сібір), і неацэннай даследчыцы гісторыі Беларусі, рэдакцыя „Нівы“ віншуе юбілярку і зычыць Ёй добрага здароўя ды новага плёну ў навуковай працы.**






## БІБЛІЯГРАФІЯ ПРАЦ АЛЯКСАНДРЫ БЕРГМАН

### АНТОН ЛУЦКЕВІЧ

1. Białoruski Tygodnik „Nasza Niwa”. *Kwartalnik Historyczny, tom 3, s. 363—382, 1972.*

2. Biogram A. Łuckiewicza. *Polski Słownik Biograficzny. Wyd. im. Ossolińskich PAN, Kraków, XVIII /4/, s. 514—515, 1973.*

3. Antoni Łuckiewicz (1884—1946). Szkic biograficzny. *Przegląd Historyczny, nr 4, s. 667—695, 1974.*

3a. Рэцэнзія А. Багровіч. *Запісы, н-р 13, с. 119, 1973, (Нью-Йорк).*

4. Антон Луцкевіч — у стагоддзе са дня нараджэння. *„Ніва“ н-р 5, 29.I.1984, с. 2—5.*

5. Яшчэ раз пра Антона Луцкевіча. *„Ніва“, н-ры 42, 15.XI, с. 1—4; 43, 22.X. с. 4—5; 44, 29.X.1989, с. 4—5.*

6. Recenzja pracy J. Garniewicza pt. Białoruskie Towarzystwo Naukowe w Wilnie (1918—1939). *Studia z dziejów ZSRR i Europy Środkowej, XXIII, s. 237—242, 1987.*

7. Na Białorusi. *Res. Publica, nr 4, s. 130—131, 1987.*

8. Jeszcze raz o Antonie Łuckiewiczu. *Przegląd Historyczny, 1990, w druku.*

### ГРАМАДА

1. Białoruska Włościańsko-Robotnicza Hromada. *Z Pola Walki, nr 3/19/, s. 73—99, 1962.*

1a. Jak wyżej w zbiorku pt. *Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej”, PWN, Warszawa, s. 96—140, 1984.*

1б. Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада (1925—1927). *Навуковы зборнік, ГП БГКТ Беласток, с. 95—180, 1964.*

2. Przemówienie wygłoszone w Białymstoku w 40 rocznicę powstania BWRH. *Powstanie i działalność Białoruskiej Włościańsko-Robotniczej Hromady na Białostocczyźnie. Wydawca: Wydział Propagandy KW PZPR w Białymstoku, redaktor: M. Nosowicz, s. 81—96, 1973.*

3. Грамада праз 50 год. *Беларускі каляндар, ГП БГКТ Беласток, с. 142—159, 1975.*

4. Wracając do zagadnienia Hromady. *Przegląd Historyczny, LXVI, nr 2, s. 305—309, 1975.*

5. Кніга аб Грамадзе. *„Ніва“, н-р 19, 1985, с. 3—4.*

**(Працяг на стар. 7)**

называем знішчваннем беларускай мовы. Трыццатыя і паслейшыя гады выштурхнулі дапераду сталінскую канцэпцыю збліжэння і зліцця моваў. У сферы навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі гэта, на практыцы, азначала татальнае калькаванне, а то і запазычванне жыўцом з рускай мовы. Уласцівы беларускай мове лад быў знявечаны навязваннем рускай фразеалогіі і сінтаксісу. Шмат слоў ва ўжытку мастацкай літаратуры і публіцыстыкі было прысуджана на выгнанне за свой „нацдэмаўскі“ характар. Да таго ўсяго — правапісная рэформа 1933 года, якая скалечыла фанетыку. Ці не зашмат як на адну мову?

Апраўданнем татальнага запазычвання і калькавання ў сферы навукова-тэхнічнай лексікі служыў „навуковы“ погляд, што быццам вышэй згаданая намінацыя ў беларускай мове немагчымая на аснове метафарызацыі, гэта значыць, калі традыцыйныя побытавыя словы стаюцца асноваю для сцісла азначаных навукова-тэхнічных тэрмінаў.

Тэрміналагічная камісія ТБМ лічыць, што калькаванне і запазычванне не можа быць магістральным шляхам развіцця беларускай навуковай і тэхнічнай тэрміналогіі. Акцэнт будзе перасунуты на выкарыстанне сродкаў сваёй мовы — дыялектнай лексікі, характэрных беларускай мове навативораў і словаўтварэнняў, здабыткаў тэрмінатворчасці 20-х гадоў.




На заканчэнне хацелася б падкрэсліць наступнае: мы наогул не ўсведамляем сабе, што сваім аб'ёмам так званая агульналітаратурная лексіка суадносіцца з навукова-тэхнічнай лексікай так, як, вобразна кажучы, кропля з бочкай вады. Лік намінатыўных адзінак ва ўсіх галінах навукі і тэхнікі ідзе ў жудасныя мільёны. Гэтая заўвага адрасуецца ўсім тым, якія лічаць, што пасля 60 гадоў лінгвістычнага бандытызму на Беларусі праблему беларусізацыі жыцця рэспублікі можна будзе вырашыць, напрыклад, за дзесяцігадовы перыяд, прытым — часткова адміністрацыйнымі мерамі. Супраціў партыйна-бюракратычнага і абруселага апарату ўлады — гэта толькі адзін бок беларусізацыі. Другі бок справы пазбаўлены палітычных падтэкстаў — тут патрабуецца карпатлівая праца арміі спецыялістаў па асобных дзялянках навукі і тэхнікі ды лінгвістаў, потым выдавецкіх калектываў, потым настаўнікаў усіх узроўняў і г.д. і г.п. Колькі на гэта патрабуецца часу? Не ведаю.

Адно несумненнае: навукова-тэхнічная і гуманітарная інтэлігенцыя, якая мае адпаведныя кваліфікацыі ды нацыянальную свядомасць, павінна ўсвядоміць сабе і будзённы бок беларускага патрыятызму (альбо, калі хто хоча — нацыяналізму). А ён указвае нам на бязмежжа карпатлівай і зусім не гераічнай у сваіх вонкавых праявах працы, прытым, дадайма, працы без спадзявання на маментальныя вынікі. Будуйма падмурак, альбо, як хоча даволі разумны хлапец з Вільні Сяргей Дубавец, будуйма падставы рацыянальнага беларускага нацыяналізму... Назваць па-беларуску грыбы (хай сабе з неверагодна дзікай назвай „базідыяміцэты“) — паверце мне, не такая ўжо цалкам дробная справа ў нашым разлезлым нацыяналізме.

Прасяніца цынобравая, цвердагуз разнаякі, вогніца пупковая, пстрычнік-валасянік прыўкрасны (!!!), пухіроўка дзьмухатая, келіхавец веснавы, шаломаўка няпэўная, слязоўнік прытоены, студзіна дуброўная... Вось так, усім бальшавікам на згубу.

**Ян Максімюк**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

**Віктар Гардзей**

### ЖАРТ

Дождж пайшоў  
І не сціхае.  
У гушчар загнаў ён Зая.  
Справа дождж сячэ  
І злева...  
— Пад якім сядзіць Зай  
Дрэвам?  
Хто ўгадае?  
— Пад ялінкай!  
— Не!  
— Пад клёнам!  
— Пад асінкай!  
— Мо пад елачкай  
Схаваўся?  
— З вас ніхто  
Не здагадаўся:  
Калі справа дождж  
І злева,  
Зай сядзіць пад...  
Мокрым дрэвам.

### ФУТБОЛ

Мы гуляем у футбол.  
Шум і смех стаіць вакол.  
Толькі ў сетку, хоць ты плач,  
Штосьці не трапляе мяч.  
Мо на полі шмат травы?  
Можа, мяч які крывы?

### КОЦІК

Брудным быць не хоча коцік:  
Мые спінку і жывоцік.  
Мые лапкі, хвосцік мые...  
Вучаць коціка малыя:  
— Станеш чыстым, коце мілы,  
Калі будзеш мыцца з мылам.

## ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

### ЧАМУ КАНЯ ЎСЁ ПРОСІЦЬ ПІЦЬ?

Калі стварыў Гасподзь Бог наш свет, уся вада была ў адным месцы. Сабраў Бог усіх птушак і сказаў ім:

— Птушачкі мае, работнічкі мае! Сабярыцеся вы ўсе на ўсе і разнясіце вы ваду дый па ўсяму свету, разліце вы яе ў рэчкі бягучыя, у азёры стаючыя, у крыніцы халодныя. І сабраліся ўсе птушкі і сталі насіць ваду. Насілі-насілі, пакуль усю разнасілі. Адна толькі каня не паслухалася Госпада Бога, не насіла вады, за што і пракляў Гасподзь каню. Сказаў ён так:

— Ты вады не насіла, не можаш і напіцца ні ў рэчцы бягучай, ні ў возеры стаючым, ні ў крыніцы халоднай і чакай ты можа толькі дажджу майго заліўнога.

І стала з тых пор прасіць каня піць: „Хачу піць, піць!“ і чакаць дажджу. Напіцца жа дык ні ў якой задзе не можа, а толькі калі дождж ідзе, раззявіць рот і ловіць кроплі.



Фота Я. Целушэцкага.

## НАПЕРАДЗЕ НЕ СТРАШНА

Калі Лукашку было тры гады, яму купілі веласіпед. Колы надзіманыя, чырвоныя, як тоўстыя абаранкі, а ззаду, для страхоўкі, яшчэ маленькія пластмасавыя колцы прымацаваны.

Паездзіў Лукашок месяцы два, нагледзеўся, як старэйшыя за яго дзеці ганяюць такія ж веласіпеды на двух колах, без страхоўкі. Ніяк не ўгонішся за імі. Лукашку здавалася, што маленькія колцы-апоры замінаюць, не даюць разагнацца. Без іх ён перагнаў бы ўсіх у двары!

Пачаў Лукашок прасіць тату, каб пазнімаў ён маленькія колцы. Той ужо і наважыўся быў гэта зрабіць, дастаў ключ... Але тут згледзела мама, што бацька з сынам робяць, і запярэчыла:

— Што ты, Лукашок? Пераkуліўся і нос разаб'еш. Ты ж яшчэ маленькі, каб на двух колах ездзіць.

Лукашок занудзіўся, пачаў угаворваць маму, што ён ужо не малы, а вялікі. А вялікія ўсе — Віця, Грыша, Толя — ездзяць на двух колах. Нічога не памагала, мама стаяла на сваім.

Аднойчы тата прыйшоў з работы яшчэ завідна, ён працаваў у першую змену. Мамы не было дома. Тата забраў Лукашка з садзіка адразу пасля падвячорка.

Не паспелі зайсці ў дом, як Лукашок схапіў веласіпед і на двор. Тата пайшоў следам. Суседскіх дзяцей нікога не было. Неўзабаве выйшаў Віця з сваім двухколавым веласіпедам. Сеў і пашыбаваў уздоўж дома, ды так шпарка, што не дагоніш...

Тата з Лукашком прыселі на лавачцы. Пад'ехаў, засопшыся, Віця, таксама сеў адпачыць і пытаецца:

— Лукашок, а чаму ты не ездзіш на сваім?

— Так, — адказаў той нявесела.

Тата заўважыў гэтую невясёласць і да Віці:

паглядзі, як Лукашок будзе вучыцца без страхоўкі ездзіць. Дай яму свой веласіпед.

Віця сумеўся трохі, але потым згадзіўся:

— Бярыце.

„Лукашок жа не адзін — з татам, — падумаў хлопчык, — так што не паломяць“.

Тым часам Лукашок прымас-

— Ты замарыўся? Адпачні і ціўся ўжо на сядло. Тата пачаў яму тлумачыць:

— Бярыся за руль, ногі на педалі... Не бойся, я цябе трымаю... А цяпер глядзі наперад і націскай на педалі...

Лукашок крануўся, але нейкая сіла павяла яго ўлева, ён глянуў сабе пад ногі, адчуў, што падае, і абедзвюма нагамі ступіў на зямлю.

— Страшна... — вымавіў ледзь чутна.

— Не глядзі пад ногі, а толькі наперад, — паўтарыў каторы ўжо раз тата. — Не бойся, я ж трымаю цябе...

Лукашок зноў націскае на педалі, трохі праехаў, але яму так хочацца глянуць уніз, на ногі, што ён не вытрымлівае, апускае вочы долу і адразу ж падае...

— Ну вось, ужо лепш... Глядзі толькі наперад, — паўтарае тата. — Калі глядзіш наперад, страх знікае, а зірнеш уніз — і ён пачынае блытацца ў тваіх нагах, не пускае іх круціць педалі... Давай яшчэ раз... Вунь на тую бярозку, што ў канцы двара расце, кіруйся ўвесь час. Пачынаеш падаць улева, туды ж і руль вярні... Павернеш, і веласіпед сам пакоціцца роўненька.

Глядзіць Лукашок на прыгожую бярозку ў зялёным уборы, націскае на педалі, адчувае, як тата прытрымлівае яго за плечы... Едзе роўна і не думае хіліцца ні ўправа, ні ўлева... Дае-

(Працяг на стар. 10)

**Ніл Гілевіч**

### СВЯТА ЗЯМЛІ

Першы гром быў сёння ўночы.  
Дождж да дня шумеў вясёла.  
Ранак вытарашчыў вочы,  
Як дзіця, глядзіць наўкола.

Што за ноч магло зрабіцца!  
Перайначана ўсё чыста:  
Поле дыша і дыміцца  
Парай лёгкаю празрыстай.

Набрынялыя пупышкі,  
Што яшчэ драмалі ўчора,  
Ахінаюць голле пышна,  
Вабяць яркасцю убораў.

Пад праменнем зыркім росы  
Зіхацяць на лісцях клейкіх  
І дрыжаць, як шчасця слёзы  
На густых дзявочых вейках.

Траўка вылезла ў канаўцы,  
А ў бары — чуваць за мілі —  
Музыканты-выканаўцы  
Конкурс майскі аб'явілі.

О зямля!  
Ты ўся ў абновах!  
Ты ў мільён званочкаў звоніш,  
Ты на ста пявучых мовах  
Весняй радасцю гамоніш.

Ты смяешся так шчасліва,  
Што адразу ясна стала,  
Як ты доўга, як цярпліва  
Свята гэтага чакала!

**Якуб Колас**

### РАНІЦА ВЯСНОЮ

Ціха ў полі, ціха ў лесе,  
Ані шэпне вецярок,  
Толькі дзесь у паднябессі  
Льецца звонкі галасок.

Як бы срэбраны званочак,  
Роніць ўніз за трэлем трэль,  
Аж заслухаўся гаёчак,  
Не парушыцца і ель.

На усходзе бляск агністы  
Літым золатам дрыжыць;  
Слуп высокі, прамяністы  
Роўным полымем гарыць.

Тонкіх хмарак валаконцы  
Сталі хораша ў радок,  
Як бы ўюць яны да сонца  
З тых валаконцаў вянок.

Ціха ў полі, ціха ў лесе,  
Чуць бульбоча ручаёк,  
А высока ў паднябессі  
Льецца звонкі галасок.





© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## НАПЕРАДЗЕ НЕ СТРАШНА

(Працяг са стар. 9)

хаў-такі да бярозкі, прыўстаў на ногі, уздыхнуў: „Ух“. Хацеў сказаць: „Як цяжка“, а сказалася само сабой: „Як хораша!“

— Праўда, хораша? — перапытаў тата.

— Ага, — пацвердзіў узрадаваны Лукашок, завярнуўся з веласіпедам, каб ехаць назад. Але як жа, бярозкі не відаць больш, яна засталася ззаду?

— А бярозкі ж наперадзе няма. Куды мне цяпер кіравацца? — пытае ў таты.

— На мяне. — Тата хуценька пайшоў на тое месца, адкуль яны з Лукашком пачыналі ехаць. — Чакай толькі, я скамандую.

Тата стаяў, падняўшы рукі ўгору, і загадваў сыну:

— Глядзі на мяне... Паехалі...

Лукашок і не думае пазіраць, уніз, ногі самі спраўляюцца націскаць на педалі... Хлопчык глядзіць на ўзнятыя ўгору татавы рукі... Колы бягуць самі, нясуць Лукашка ўсё далей і далей ад страху. Ён ужо не блытаецца ў нагах, ён недзе згубіўся па дарозе.

— Наперадзе не страшна, праўда, тата? — пытаецца Лукашок.

Тата дастае ключ, адкручвае гайкі, знімае маленькія колцы, і Лукашок, узрадаваны, што перамог страх, садзіцца на свой веласіпед. Побач Віця на сваім. Яны кіруюцца на бярозку ў канцы двара, хто хутчэй. Ім абодвум нястрашна.

**(З кнігі апавяданняў У. Юрэвіча „Нястрашны страх“)**

*Вершы Віктара Шведа*

## ЦІ МАЕ ЁН КРЫЛЫ?

Пытае Сярожу
Сястрычка Людміла:
— Скажы мне, ці можа
Мужчына мець крылы?
Калі выйшаў з хаты
Панок гэты з брушкам,
Азваўся наш тата:
— Вось важная птушка!

# ПРЫГОДЫ БЕЛАВЕЖЫКА:










**Спецыяльна для „Зоркі“ прыдумаў і намаляваў студэнт III курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута ў Мінску Гардзей Шчаглоў.**



**Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка“.**

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) форменная або дамашняя куртка, 5) энергія, моц, 7) адзінка вымярэння сілы ветру, хвалявання мора, землетрасення, 8) паўднёвае пладавое дрэва, 9) прэйскурант, 11) святы абраз, 12) адколаты кавалак гранаты, 13) геаметрычны арнамент у выглядзе звілістых ліній, 16) працяжны гук, сігнал, 18) спявак-паэт, песняр, 19) вялікі бясформенны абломак нейкай цвёрдай масы, 20) чалавек малога росту, 21) заўзятасць, гарачнасць, моцнае захапленне.

**Уніз:** 1) безвыходнасць, 2) туга, маркота, 3) невялікая двухколавая каляска на рысорах для перавозу пасажыраў, 4) гнойны нарыў, 5) жывёла з хобатам, 6) аддзяленне, адарванне, 10) спецыялістка па рамонту механізмаў, 12) старадаўняя назва ўсходніх пародзістых верхавых коней, 14) прадукты харчавання, 15) надколатае месца, 16) хвароба, якую таксама называюць кіла, 17) найменшая колькасць энергіі, 18) жыхар іспанска-французскага сумежжа.

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў 12 нумары.**

**Упоперак:** даярка, направа, статут, развага, слінка, крамола, спякота, готыка, рулетка, ляснік, біноклі, Кракаў.

**Уніз:** асталоп, ратунак, антракт, спазма, малако, галава, рагалік, метыска, лексіка, спроба, яблыня, оптыка.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Ірыней Красоўскі з Бельска-Падляшскага і Лукаш Пацэвіч з Беластока.



# НІЎКА



*Аднак калісьці прыйдзе такі дзень, што поўна будзе гарэлкі і закускі, а я НЕ ЗАХАЧУ ВЫПІЦЬ!*

*Мал. Адама Сяменчыка.*

**Хамутоўскія навіны**

## ХАЙ ЛЕПШ СТАРЫ

Калгас „Прагрэс" так ужо плёўся ў хвасце прагрэсу, што начальства паселішча Хамутоўск вырашыла змяніць там старшыню. Неўзабаве і кандыдатуру падшукалі. З тых, хто ў Хамутоўску разваліў кантору і павінен быў ехаць на перыферыю для выпраўлення.

Сход быў бурны. Ніхто старога старшыню не хваліў, але і новага прызнаваць не хацеў. І тут слова ўзяў стары Піліп:

— Хай лепш застаецца стары.

— Чаму, дзед? — запыталіся ў яго з прэзідыума.

— Стары ўжо ўзяў, што можна ўзяць, а новаму трэ будзе пачынаць з нуля, — разважаў стары.

**Апалінар Абадоўскі,**
карэспандэнт (на чвэрць стаўкі) двухтыднёвіка „Вожык"

## Зязюля і Певень

*Байка*

Калі слухаць ваша ласка,
Раскажу вам быль, не казку.
Ў нашым садзе на ігрушы
Адпачыць Зязюля села.
Каб навокал ціш парушыць,
Яна голасна запела:
„Ку-ку, ку-ку, ку-ку, ку-ку!
Хто стары, ці малады,
Без запросінаў, прынукі
Палічы свае гады!"
Ў гэты час на сметнай кучы
Певень важна пахаджаў:
Сярод смецця і анучаў,
Мабыць, зернятак шукаў.
Як пачуў Зязюлі спевы,
Крыллем хлопнуў ды — на плот
(Узляцець не мог на дрэва)
І на ўвесь курыны рот:
„Як жа хараша, як слаўна
Ты, Зязюленька, пяеш!
Гэткіх спеваў я ад даўна
Ўжо не чуў. Мяне хоць рэж,
Твайго спеву не забуду,
Расхвалю цябе й курам.
Нат музыка з сваёй дудай
Не заграе гэтак нам".
„Як пайшло на тое, браце,
Дык і я скажу улад:
Не адна птушына Божа
Пазайздросціць табе можа.
Не маню ніколькі я:
Лепш пяеш за Салаўя!"
Не пытайцеся, завошта
Пеўня хваліць так Зязюля.
Гэта, бачыце, адплата
За салодкую „пілюлю".
Зязюля й Певень, як на злосць,
Сярод людзей — нярэдкі госць.

**А. Здрок**



*Мал. Ежы Млечкі.*



*— У нядзелю яму так не стае сакратарыята...*

# Анекдоты ад чытачоў

Мужык прыходзіць да лекара і гаворыць:

— Уявіце сабе, у аўторак прыходжу дамоў і застаю жонку ў ложку з незнаёмым мужчынам. Я абураюся, крычу, а жонка мяне супакойвае, тлумачыць, што гэты чалавек нам патрэбны і пасылае мяне на кухню выпіць каву.

Лекар хоча спыніць мужыка:

— Ну і што...

Мужык працягвае свой расказ:

— Тая ж гісторыя паўтарылася і ў сераду, і ў чацвер. Наогул цэлы тыдзень.

Лекар:

— Ну, а чаго вы хочаце ад мяне?

Мужык:

— Проста хацеў даведацца, ці можна мне піць столькі кавы.

* ✲ *

Татка, што такое аліменты?

— Калі двое робяць памылку, а адзін з іх за гэта плаціць.

* ✲ *

— Якія рэальныя суадносіны паміж фунтам, рублём і доларам?

— Фунт рублёў каштуе долар.

* ✲ *

— Ці ёсць у СССР бедныя?

— А як жа, ёсць. Гэта тыя, у каго нічога свайго няма. Кватэра — дзяржаўная, дача — дзяржаўная, машына — дзяржаўная.

*Даслаў В. Бабей з Мінска*


# Ніва

**Białoruski Tygodnik Społeczno-Kulturalny sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuk'**

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.

Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палопкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга (адказны сакратар).

„Niwa", ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 232-41, 210-33.

**Wydawca:** Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne 15-062 Białystok, ul. Warszawska 11.

**Druk:** Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

I. Prenumerata pocztowa

1. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na III kwartał 1991 r. upływa 20 maja 1991 r.
2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13.000 zł + 6.500 zł za doręczenie. Od lipca 1 egz. kosztować będzie 1.000 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28, Nr konta: PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

II. Prenumerata własna — prowadzona przez wydawcę.

Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1800 zł.

Cena prenumeraty miesięcznej: — maj — 7.200 zł. — czerwiec — 9.000 zł.

Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 23.400 zł.

Wpłaty przyjmuje Zarząd Główny BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11, Nr konta NBP O/O Białystok. 5021-3203-132.

Zam. 405/91


## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Рада беларускіх арганізацыяў ужо працуе ● Тадэуш Мазавецкі ў Бельску ● Нараўскі „Пронар" дапамагае вёсцы ● Мастацтва Тамары Тарасевіч з Белавежы ● „Полацак" — новы беларуска-амерыканскі часопіс ● Праграма X Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі ● Ізноў Нью-Йорк.**

© PDF: Kamunikat.org 2016